# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1764) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 4 САКАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


З КАНГРЭСУ БДА

## СТАЦЦА НАРОДАМ

10 лютага 1990 г. у Беластоку прайшоў заснавальніцкі кангрэс беларускай палітычнай партыі. Удзельнікі Кангрэсу большасцю галасоў вырашылі, што палітычнае ўтварэнне беларусаў у Польшчы будзе называцца Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем. Такім чынам, пасля 50-гадовага перапынку, беларусы вяртаюцца ў палітычнае жыццё Польшчы.

Калі гаварыць пра падзеі, якія папярэднічалі ўтварэнню беларускага палітычнага прадстаўніцтва, то трэба было б пачаць з 11 лютага 1989 — даты стварэння так званага Беларускага клуба, які меў стацца школкай палітычнага мыслення беларусаў. У дэкларацыі Клуба пісалася: „(...) *Абарона беларускай справы ў Польшчы патрабуе асэнсавання палітычных абставін нашага далейшага існавання як нацыянальнай меншасці. Дзеля гэтага мусім аб'яднаць нашы інтэлектуальныя сілы. Да часу ўзнікнення нармальнага палітычнага жыцця Беларускі клуб будзе цэнтрам самастойнай беларускай думкі. (...)*“ Першым сур'ёзным выклікам для сябраў Клуба сталіся леташнія выбары ў парламент. Клуб вылучыў на выбары двух незалежных беларускіх кандыдатаў: Яўгена Мірановіча і Сакрата Яновіча. Кандыдаты Клуба добра зазначылі сваю прысутнасць у выбарах на Беласточчыне, нягледзячы на выбарчы пройгрыш. Беларускі палітычны рух стаўся ў краіне публічнай справай. Пасля аналізу палітычнай сітуацыі сябры Клуба вылучылі ініцыятыўную групу Беларускага грамадскага камітэта „Грамада“. „Грамада“ мела стацца зародкам будучай палітычнай партыі беларусаў. Ініцыятыўная група пачала рабіць захады дзеля згуртавання беларусаў вакол ідэі незалежнай беларускай партыі. Вонкавыя абставіны — жахлівае эканамічнае становішча ў краіне і раз'ятраны польскі шавінізм — прымушалі „Грамаду“ да радыкальных крокаў. Ініцыятыўная група распрацавала праект праграмы беларускай партыі, выступіла ў абароне права і беларускіх інтарэсаў у гайнаўскім канфлікце, значна прыспешыла падрыхтоўку да заснавальніцкага кангрэсу. Перад самім кангрэсам выдала бюлетэнь „Нашы навіны“. 10 лютага (у гадавіну заснавання Беларускага клуба) было створана Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне.

Такая, у кароткім абрысе, немудрагелістая механіка першых самастойных крокаў беларусаў у палітыцы. Калі глянуць шырэй на прычыну ўзнікнення беларускай партыі, то трэба перш за ўсё ўсведаміць сабе банальную праўду, што пра будучыню нацыі (нават меншаснай) рашае яе эканамічнае становішча і палітычны статус. Культурна-асветніцкія праявы яе існавання паступова занікаюць, калі занікае яе нацыянальная эканамічная база. Сакрат Яновіч піша ва ўступным артыкуле ў „Нашых навінах“: „*Пасляваенне дастаткова ясна паказала, што абмежаванне гэтай* (тут: беларускай — Я. М.) *ажыўленасці да культурніцтва толькі запавольвае наш нацыянальны занялад і знікненне з гістарычнай арэны. У сучасны момант апынуліся мы на мяжы смерці*“. Значыць, палітычная актыўнасць беларусаў — гэта ў нашых умовах шанц паратунку ад нацыянальнага знікнення. Партыя павінна стацца выказнікам беларускіх палітычных інтарэсаў. Яны, як паказвае жыццё, не заўсёды супадаюць з агульнадзяржаўнымі.

Заснавальніцкі кангрэс пачаўся каля дзесятай гадзіны ў памяшканні БГКТ у Беластоку



Каардынатар Краёвай управы БДА Віктар Стахвюк.



Старшыня Галоўнай рады БДА Сакрат Яновіч.

адспяваннем гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“. Кангрэс быў адкрытым для ўсіх (аніякіх дэлегатаў раней не выбіралі). Удзельнікі Кангрэсу даручылі кіраванне яго ходам Сакрату Яновічу.

Віктар Стахвюк склаў перад удзельнікамі кароткую справаздачу з дзейнасці БГК „Грамада“. З аналізам эканамічнага стану ўсходняй Беласточчыны выступіў Алег Латышонак (матэрыял апублікаваны ў „Нашых навінах“). Эканамічнае і экалагічнае спусташэнне ўсходняй Беласточчыны (этнічнага арэалу беларусаў) было вынікам дыскрымінацыйнай і неразумнай палітыкі ваяводскіх і цэнтральных уладаў — так можна сфармуляваць галоўны тэзіс прадстаўленага аналізу. У выступленні А. Латышонка закранута была таксама тэма каланізацыйнай пагрозы для так званай „усходняй сцяны“ — самай спустошанай і эканамічна адсталай паласы Беласточчыны. Далей Яўген Міраповіч прадставіў праект праграмы беларускай партыі (першапачатковая версія праекта была апублікавана ў „Ніве“, прадстаўлены на Кангрэсе праект змешчаны ў „Нашых навінах“). Агульна кажучы, аўтары праекта зыходзяць з прынцыпу, што найбольш дзеля

(Працяг на стар. 6)

## УСТУПНАЕ СЛОВА

**НА КАНГРЭСЕ БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЯДНАННЯ 10 ЛЮТАГА 1990 г. У БЕЛАСТОКУ.**

Нам трэба яснасці. Наша ідэя, праграма і план — гэта адно: застацца беларусамі. Гэтаму падпарадкавана будзе ўсё, што робім. Бо найперш мы павінны ўтрымацца як народ, а пасля ўжо зможам дазволіць сабе шырыню намераў, нармальнасць.

Таму мы — партыя абароны ад беларускай смерці. Гэта абмяжоўвае, але гэта і варунак хады наперад. На працягі.

Што дае перспектыву нацыянальнай справе? Дзеля яе, як выяўляецца, мала культурнай дзейнасці. Яна не выратуе нас. Неабходная яшчэ і гаспадарчая, і палітычная.

Палітыка, гаспадарка, культура, — такая трохадзіная цэласць жыцця кожнага народа.

Праз увесь гарызонт часу, які ў нашай памяці, была прыблізна дазволена беларусам Беластоцкага краю не больш як культурная дзейнасць. Найчасцей фальклорны яе варыянт, на ўзроўні рэгіяналізму. Гэта не стрымлівае працэсу знікнення беларускай меншасці з гістарычнай арэны.

Гаспадарчыя праблемы нашага насельніцтва вырашаліся без яго. У выніку гэтага маем сёння дачыненне з т.зв. „усходняй сцяною“, пераўтварэннем яе ў тэрыторыю для каланіяльнай экспансіі. Калі так здарыцца, будзем пазбаўленымі Бацькаўшчыны. Зробімся гасцямі ў доме сваіх продкаў. Чужынцамі на роднай зямлі.

Як прадухіліць гэтае выгнанніцтва? Вось вялікае пытанне. Элементарнае вырашэнне напрошваецца само сабою: пакінуць жыць лёкаямі, што трымаюцца панскае клямкі, адыйсці з парабкавання ў чужым двары.

Палітычныя ж інтарэсы беларускай нацыянальнай меншасці трактаваліся як нешта крамольнае, вартае турмы без суда нават! Адвучылі нас быць не толькі гаспадаром, але і заступацца за сваё. Усё мелася падаць гатовенькае з неба, пасяпвай адно разяўляцца ды дзякаваць. Абарона інтарэсаў, што процістаяць іншым, гэта і ёсць палітыка. Іначай кажучы: барацьба, змаганне, неадступнасць. Каб весці не штучную. але рэальную палітычную дзейнасць, патрэбны і культурны і гаспадарчы патэнцыялы. Бо за го-

(Працяг на стар. 2)

# РАЁННЫ АГЛЯД У БЕЛАСТОКУ



*Эля Бэзюк.*

Спяваем, покуль няма посту. Сёлета „Беларуская песня“ рушыла даволі рана: 28 студзеня элімінацыямі ў Дуброве-Беластоцкай. Этап элімінацыяў замкнуўся раённымі аглядамі ў Бельску і Беластоку 11 лютага. 17 лютага — цэнтральны конкурс у Беластоцкай філармоніі, 18 лютага — там жа канцэрт лаўрэатаў.

Што б ні сказаць пра дзейнасць БГКТ у апошні час, то ўсё-ткі кепскім словам адазвацца пра „Беларускую песню“ нельга. На працягу 20 гадоў гэтая імпрэза нязменна мела сваю верную публіку і сваіх выканаўцаў. Мяркуючы па прыкметах апошняга часу, беларуская песня (а таксама і „Беларуская песня“) прыдбала сабе шмат новых прыхільнікаў. 11 лютага ў канцэртнай зале БГКТ у Беластоку для ўсіх ахвотных паслухаць свае песні не хапіла крэслаў. Тыя, што прыйшлі крыху пазней, стаялі шчыльна ўпрытык пад сценамі, стаялі дзве гадзіны, бо столькі трываў сам конкурс, а потым яшчэ больш гадзіны слухалі пазаконкурсныя выступленні спевакоў, покуль журы ўзгоднівала сваю ацэнку.

Конкурсная праграма беластоцкага раённага агляду была багатая, нягледзячы на тое, што традыцыйна ўжо яе галоўнымі апорамі з'яўляліся тры калектывы: беластоцкі хор, гарадоцкі хор і „Хлопцы-рыбалоўцы“ з Рыбалаў. Але спявачыя індывідуальнасці з Беластока і Гарадка настолькі адметныя, што гэтыя два хоры могуць дазволіць сабе вылучаць са свайго складу салістаў і дуэты ў якасці асобных пунктаў у праграме. Прыемнай нечаканасцю сталі выступленні маладых выканаўцаў: дуэта Анны Богус і Ірыны Копы, салісткі Элі Бэзюк, вакальнага калектыву „10“, вакальна-інструментальнага калектыву Андрэя Жамойды і маладога беластоцкага рок-гурту „Альбаросіка“, у выкананні якіх мы пачулі сучасныя беларускія песні і фальклорныя песні ў новай, „маладзёжнай“ апрацоўцы.




*Беластоцкі рок-гурт „Альбаросіка“.*

Мне асабіста найболей даспадобы прыйшліся выступленні беластоцкага хору і дуэта Любы Гаўрылюк і Яўгеніі Астапчук, калі мець на ўвазе фальклорна-традыцыйную частку агляду. З маладых выканаўцаў у першую чаргу мне хочацца вылучыць Элю Бэзюк, якая ўсё яшчэ ў пошуках уласцівай сабе выканаўчай манеры, і гурт „Альбаросіка“ з вакалістам Янкам Хохам, які падае надзеі на тое, што ўжо ў недалёкай будучыні мы будзем мець першы сапраўдны беларускі рок-гурт на Беласточчыне.

Журы (Ежы Сьрудкоўскі, Ежы Шапель і Віктар Стахвюк) шчодрай рукой раздзяліла месцы ў конкурсе (наконт узнагародаў мне нічога толкам не вядома). Першыя месцы ў катэгорыі фальклорнай песні дасталіся Любе Гаўрылюк (салістцы), дуэту Любы Гаўрылюк і Яўгеніі Астапчук, беластоцкаму хору і „Хлопцам-рыбалоўцам“. Першыя месцы ў катэгорыі сучаснай песні заваявалі калектывы „10“ і „Альбаросіка“. Пра месцы другія-трэція не пішу, бо давялося б пералічыць амаль усіх удзельнікаў агляду. Скажу толькі, што амаль усіх удзельнікаў беластоцкага раённага конкурсу мы пабачым у цэнтральным конкурсе.

І вось яшчэ што. Усім выканаўцам фальклорнай песні акампаніяваў на акардэоне Сцяпан Копа. Тое, што раённы беластоцкі агляд прайшоў надзвычай паспяхова, як для выканаўцаў, так і для гледачоў, — немалая заслуга гэтага шматгадовага аніматара беларускай песні на Беласточчыне.

**Ян Максімюк**
Фота аўтара



### ДА ЮБІЛЕЮ ПЕРШАДРУКАРА

З вялікай цікавасцю прачытаў у чацвертым нумары „Нівы“ за гэты год карэспандэнцыю „Ф. Скарына ў познанскай турме“ Анатоля Маўчуна, чые публікацыі заўсёды высока цаню. Ён грунтоўна расказаў пра „познанскую адысею“ нашага першадрукара. Аднак мне хочацца зрабіць і адно фактычнае ўдакладненне.

У канцы карэспандэнцыі гаворыцца: „У адным з нумароў „Przyjaźni“ было змешчана інтэрв'ю з Адамам Мальдзісам. Чытачы гэтага тыднёвіка даведаліся з яговых слоў, што Акадэмія навук БССР атрымала з Польшчы (і з Познані) дакументы, якія тычацца Францішка Скарыны. Можа, да святкавання пяцісотгоддзя з дня яго нараджэння, якое, дзякуючы ЮНЕСКА, будзе міжнародным святам, выйдзе поўная біяграфія нашага вучонага і гуманіста“. З гэтых слоў вынікае, што атрыманыя (дзякуючы дапамозе жыхара Познані мастака Эўгеніюша Мальдзіса, пісьменніка Фелікса Фарнальчыка і яго жонкі Крыстыны) дакументы яшчэ чакаюць сваёй публікацыі. Між тым, гэтыя дакументы, расчытаныя і перакладзеныя маладым даследчыкам Алесем Жлутко, ужо надрукаваны (у арыгінале і перакладзе) у зборніку „Францыск Скарына. Дакументы і матэрыялы“, укладзеным Віктарам Дарашкевічам (Мінск, 1988). Праўда, у нас няма ўпэўненасці, што атрыманы копіі ўсіх дакументаў (у адным яўна не хапае часткі). Значыць, пошукі ў Познані трэба працягваць.

Карыстаючыся выпадкам, хачу паведаміць чытачам „Нівы“, што да юбілею Ф. Скарыны, які будзе адзначацца ў верасні г.г., наш Інстытут літаратуры ўжо выдаў зборнік „Спадчына Скарыны“. У бліжэйшы час асобна выйдуць прадмовы і пасляслоўі нашага першадрукара, бібліяграфія прысвечаных яму прац, калектыўная манаграфія „Ф. Скарына і яго эпоха“, зборнік У. Кароткага „Прадмовы і пасляслоўі прадаўжальнікаў справы Скарыны“. Разам з энцыклапедычным слоўнікам пра Скарыну, „Календарыем Скарыны“, выдадзеным Ю. Лабынцавым, факсімільным перавыданнем Скарынавай Біблії, манаграфіяй Я. Неміроўскага пра жыццё і дзейнасць вялікага Палачаніна, прысвечаным яму раманам А. Лойкі, іншымі выданнямі гэта будзе істотным папаўненнем Скарыніяны, добрым падарункам да юбілею.

**Адам Мальдзіс**

*P.S. Ганарар — як заўсёды — на музей.*

### БЕЛАРУСКІ ВЫБАРЧЫ КАМІТЭТ

23 лютага г.г. у Беластоку, у сувязі з будучымі выбарамі ў гарадскія і гмінныя самаўрады, быў створаны Беларускі выбарчы камітэт. Камітэт вылучыў спасярод сябе Выбарчы штаб. Пакірve ім Віктар Стахвюк — сакратар ГП БГКТ і каардынатар Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

Беларускі выбарчы камітэт ставіць сабе мэтаю стварыць тэрытарыяльныя выбарчыя камітэты ў гмінах і вылучыць беларускіх кандыдатаў на выбары, а таксама падтрымліваць і дапамагаць сваім кандыдатам у выбарчай кампаніі. **(ям)**




### СЯМЕЙНЫ ВЕЧАР

Ларыса і Янка пажаніліся з вялікага кахання Ларыса скончыла універсітэт і працавала настаўніцай у ліцэі, а Янка — настаўнікам на вёсцы. У яго была сярэдняя адукацыя.

— Мо паступіў бы ты завочна ва універсітэт? — прапанавала мужу Ларыса.

— Пачакай, дарагая, трохі абжывемся, гады буду вучыцца.

Так прайшло пяць гадоў. Купілі штосьці з мэбляў, трохі ашчадзілі грошай. Нарадзілася двое дзяцей: дачка і сын.

Янка паспяхова паступіў ва універсітэт. Калі ездзіў на заняткі, найбольш сумавалі дзеці. Бацька прывозіў жонцы кветкі, дзецям прыгожыя забаўкі і штосьці з вопраткі. Мінуў год.

Аднойчы...

Было гэта перад калядамі. Янка, як заўсёды, паехаў на заняткі. Абяцаў вярнуцца на Куццю. Дзеці ў той дзень не маглі адарвацца ад вокан. Ларыса рыхтавала святочную вячэру, на якую былі запрошаны бацькі Ларысы і Янкі, іх браты і сёстры.

Першымі з'явіліся бацькі Янкі і сястра Ларысы, пасля прыйшлі бацькі Ларысы...

Усе чакалі Янку. Нарэшце, з'явіўся і ён. Як заўсёды, з падарункамі для дзяцей і кветкамі для жонкі. Прывітаўся з гасцьмі.

— Пачакайце, я зараз, толькі зайду ў пакой.

З пакоя выйшаў з чамаданам.

— Прабачце, — сказаў, — я пакідаю сваю сям'ю. Я пакахаў іншую жанчыну і без яе не магу жыць. Не буду прысутнічаць на вячэры.

Усе анямелі. Янка спакойна выйшаў і пайшоў на вакзал.

У той вечар нікому не хацелася есці калядных страў.

**Аўрора**

# СТАЦЦА НАРОДАМ

(Праця́г са стар. 1)

свайго нацыянальнага выратавання беларусы могуць зрабіць самі. Зарукаю гэтаму павінна стаць дэмакратычная самаўрадавая рэформа ў краіне. Надзяленне самаўрадаў шырокімі паўнамоцтвамі перанясе вырашэнне шэрагу істотных гаспадарчых і культурных пытанняў у кампетэнтнасць мясцовых уладаў: гарадскіх і гмінных. Для беларусаў Беласточчыны гэта адзіны шанц на тое, каб вырашаць свае справы самім на сваёй этнічнай тэрыторыі. Можна будзе займець трывалую эканамічную апору дзеля культурнай, асветнай і ўсялякай іншай дзейнасці. Эканамічную будучыню сельскай гаспадаркі партыя бачыць у развіцці сярэдніх (да 50 гектараў) прыватных гаспадарак фермерскага тыпу. Падаткі ад зямлі павінны галоўным чынам ісці на пабудову гаспадарчай і паслуговай інфраструктуры на Беласточчыне. Дзеля рэкампенсацыі дыскрымінацыйнай гаспадарчай палітыкі ў папярэднія гады прапануецца паменшыць падаткі на тую іх частку, якая адводзіцца ў цэнтральны бюджэт. У галіне культурна-асветніцкай дзейнасці партыя бачыць патрэбу паўнакроўнага развіцця беларускай культуры на Беласточчыне, у тым ліку і развіцця сучасных формаў гарадской культуры (беларускі нацыянальны тэатр, беларуская эстрада). Беларуская культура мае развівацца за кошт сродкаў, выпрацаваных беларусамі на сваім этнічным арэале (гмінныя фонды культуры), а таксама за сродкі, якія адводзяцца з падаткаў у агульнадзяржаўны фонд культуры (прапарцыянальна да ліку беларусаў). Трэба пачаць адбудову (і пабудову) беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Першым крокам павінна стаць увядзенне навучання беларускай мовы і гісторыі на этнічнай беларускай тэрыторыі.

Як відаць нават з гэтага агульнага агляду праграмы, беларуская партыя не ставіць сваёй мэтай пабудову тэрытарыяльнай беларускай аўтаноміі на Беласточчыне. Дзеля гэтага няма патрэбы і рэальнай магчымасці. Затое ў праграме прадбачваюцца некаторыя элементы гаспадарча-культурнай аўтанамізацыі беларускай нацыянальнай меншасці.

Агульным форумам беларусаў у Польшчы павінна стацца Рада беларускіх партыяў (калі ўзнікнуць яшчэ іншыя) і арганізацыяў. Гэта — як нейкая форма беларускага мініпарламента ў Польшчы. Заўчасны перапуд некаторых нашых дзеячаў мінулай эпохі ад таго, што партыя прапануе „сталінізацыю" беларускага руху ў Польшчы (такія меркаванні выказваліся і ў „Ніве"), з'яўляецца не болей чымсьці трызненнем павярэджанага таталітарызмам розуму. Формула беларускай партыі простая — гэта партыя для беларусаў і дзеля беларусаў. Ніхто не пытае, з якога боку чалавек прыходзіць у партыю. Партыя патрабуе адно сцвярджальнага адказу на пытанне: ці хочаш рупіцца для беларускай справы?

Праект статута партыі і яе арганізацыйнай структуры прадставіў юрыст Пятро Юшчук. Праект гэты быў прыняты Кангрэсам, поўны тэкст будзе апублікаваны ў прэсавым органе партыі. Я звярну ўвагу чытача на галоўнае ў ім. З раздзелу „Мэты Аб'яднання": „*Аб'яднанне найвышэйшым сваім абавязкам лічыць замацаванне тоеснасці Беларускага народу ў Рэчыпаспалітай і абарону яго палітычнага, культурнага, рэлігійнага і нацыянальнага суверэнітэту*".

Прынцып традыцыйнага членства ў партыі падмяняецца прынцыпам удзельніцтва. Статут гаворыць пра гэта наступным чынам:

— набыццё ўдзельніцтва наступае шляхам прызнання праграмы і статута Аб'яднання;

— прызнанне наступае шляхам асведчання волі ў адвольнай форме.

Галоўнай заканадаўчай уладай Аб'яднання з'яўляецца Кангрэс, які адбываецца раз на два гады. Паміж Кангрэсамі заканадаўчыя паўнамоцтвы мае Галоў-

# УЗДОЎЖ БЕРАГА Ў ГІСТОРЫЮ

Ці заўважыў ты, паважаны чытач, што большасць старэйшых гарадоў па ўсёй зямлі ўтульна размясцілася на берагах рэк?

Рака была не толькі карміцелькай і паіцелькай старадаўняму чалавеку. Ці ж не аб гэтым гавораць радкі старадаўніх беларускіх песень „Ой пайду я каля рэчкі..." ці „Мае дружкі — крутыя бяражкі..." Векавая прыхільнасць чалавека да ракі знайшла яскравае ўвасабленне ў незлічоных знаходках старажытных прадметаў на рачных берагах.

На працягу некалькіх год сабраў я на берагах Заходняй Дзвіны ў Віцебску і Полацку калекцыю старажытных жаночых упрыгожанняў. Жанчына, з яе парывам да хараства, увабрала ў сябе самую светлую, але і самую крохкую тайну зямной прыгажосці.

Памятаю першую сустрэчу з гэтай тайнай, калі сярод розных прымет былога жыцця на беразе Дзвіны трапіў мне ў рукі празрыста-блакітны кавалак шклянога жаночага бранзалета аж з XIII стагоддзя.

Трымаючы ў руках згладжаны часам абломак, я адчуваў, як душа мая імкнецца ўвайсці скрозь цемру стагоддзяў у светлы дзень чужой душы.

Пазней я знайшоў не адзін фрагмент гэтага даўняга жаночага ўпрыгожання: і гладкі, і віты, то жоўты, то зялёны, то таемна чорны з паўсцертым следам залатой кручанай ніткі вакол, і кожны раз такая знаходка сагравала душу гаючым цяплом вечнасці, калі кожная каляровая думка ўваскрашала абрыс цёплай жаночай рукі...

Калі ж з'явіліся на нашай зямлі гэтыя звонкія каляровыя дзівы? Прызнаны знаўца старажытнага шкла М. Яніцкая ў манаграфіі „Вытокі шклоробства Беларусі" піша, што самыя раннія бранзалеты, знойдзеныя на аршанскім гарадзішчы, адзначаны аж X стагоддзем, а ўжо з XI па XIV стагоддзі яны ў вялікай колькасці бытавалі па ўсіх гарадах нашай Зямлі. Адзначаючы мясцовую вытворчасць шкляных бранзалетаў, Яніцкая нагадвае, што пры раскопках у Полацку быў знойдзены дом рамесніка, у якім археолагі сабралі кавалкі аж 23 бранзалетаў.

Старажытныя шкларобы радавалі жанчын не толькі бранзалетамі. У меншай колькасці мною знойдзена некалькі абломкаў даўніх шкляных пярсцёнкаў, але нейкую асаблівую радасць я заўсёды адчуваў, знаходзячы старажытную пацерку. Так, звычайную пацерку, але кожны раз непаўторную і не толькі па колеру і форме, але і па няўлоўнаму каларыту часу.

Уявіце сітуацыю, такога здарэння, калі ў красуні XII ці XIV стагоддзя, гуляючай на беразе ракі, раптам рвалася нітка пацерак на белай шыі, падала на прыбярэжны пясок, рассыпаючыся сярод жвіру і грузу... Яна збірае празрыстыя кропелькі дарагога падарунка, губляючы надзею сабраць усе да адной. І толькі я праз 700 ці 500 (!) гадоў знаходжу тое, чаго не знайшла яна на тым беразе. І вось яна на маёй далоні...

Дапытлівы чытач спытае, якая каштоўнасць прадметаў жаночага ўбрання? Ці сустракаюцца на беразе залатыя ці хаця срэбраныя ўпрыгожанні?

Справа ў тым, што золата ці каштоўныя каменні з даўніх часоў былі адзнакай раскошы, багацця, знатнасці, таму і належалі яны да абсалютнай меншасці. Ды і выкарыстоўваліся яны ў дні афіцыёзу ці ў святы. Цяжка ўявіць, каб такая знатная красуня, абвешаная прэстыжнымі знакамі адметнасці ці радавітасці, пабегла раптам на бераг ракі, каб выказаць вялікую прыхільнасць да прыроды.

Просты ж люд (а ён і складаў пераважную большасць насельніцтва старажытных гарадоў) карыстаўся пераважна „простай" аздобай, але, як усякае „простае" народнае мастацтва, старажытныя ўпрыгожванні з медзі, бронзы, шкла ці радзей серабра, адзначаліся асаблівай годнасцю і нават высакароднасцю.

Мо таму народная эстэтыка, народнае разуменне прыгажосці ва ўсе часы развіцця прафесійнага мастацтва, застаецца эталонам меры і тае асаблівае (бескарыснае) красы, згуба і здрада якой непазбежна вядзе да страты свайго галоўнага пачатку — шчырасці і дабраты.

Той, каму хоць аднойчы давосдзілася ў музеі старажытнага горада трапіць у залы аддзела археалогіі, заўважыў, мабыць, асаблівую цішыню іх і рэдкіх сузіральнікаў схаваных там каштоўнасцей.

Не так проста навучыцца слухаць стагоддзі, не кожнаму адкрывае свае тайны радасць сардэчнай размовы з мінулымі вякамі. Але той, каму яна адкрываецца, адчувае непараўнальную асалоду вандроўкі ў глыбінь часоў...

Такія экскурсіі ў гісторыю ўздоўж берага матухны Дзвіны ў Віцебску ці Полацку даўно зрабіліся для мяне ўвасабленнем асаблівага свята.

Часам зімой, не маючы магчымасці пайсці і паблукаць знаёмым берагам, я бачу яго ў сне і ён кліча мяне ў нязведаныя таямніцы стагоддзяў.



*Калекцыя жаночых упрыгожанняў XII—XIV стагоддзяў з Віцебска і Полацка.*

**Алесь Мемус**
**мастак, г. Віцебск**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Казімір Камейша

## САКАВІК

Сну зімовага даволі!
Сята ў сонцы, паглядзі!
Моцна спалі лес і поле —
Сакавік іх разбудзіў.

А пасля падаўся полем
Да раскутае ракі,
Начапіў лазе на голле
Залатыя каташкі.

Капяжовы перазовы
Чуеш зблізку і здалёк.
Днём у следзе палазовым
Заіскрыўся ручаёк.

Распагоджаны аблокі,
Ўлагоджаная шыр.
Сакавік кляновым сокам
Паскакаў у гладышы.

Веснавых прыкмет багата.
Сакавік здзіўлёны сам.
А яшчэ прынёс ён свята,
Дарагое свята мам.




Размалюй кветачкі каляровымі алоўкамі.

С. Авезбердыеў

### БАБУЛЯ

Ужо і спаць пара даўно,
І птушкі ўсе паснулі...
А тут, дзе свеціцца акно,
Гудзе,
Пяе верацяно.
Сядзіць,
Прадзе бабуля.

Ля ног бабуліных
Прымоўк,
Прылёг, заціх, як пташка,
Вясёлы, ласкавы ўюнок —
Унук яе
Сапашка.

Яму ўжо спаць пара даўно
І сон убачыць райскі...
Ды ніццю цягнецца руно.
Гудзе,
Пяе верацяно.
Бабуля
Бае казку.

Шарсціначка з шарсціначкай —
Бяжыць
Тугая ніточка.
Са словам слова раіцца.
У казцы ўсё
Збываецца.
... Шкада,
Як нітка скончыцца:
Мне спаць зусім не хочацца!

*Пераклаў Казімір Камейша*

Аляксей Якімовіч

## КАБ МАМА ЎСМІХАЛАСЯ

Алесеў брат Мікола служыць у арміі. Сумна Алесю без брата. Асабліва цяпер, зімою. Раней з Міколам хадзіў рыбу лавіць. З-пад лёду. А сёлета мама не пускае аднаго на рэчку.

Не выцерпеў Алесь, спытаў у мамы:

— Калі наш Мікола на пабыўку прыедзе?

— А ты пісьмо напішы, сам у яго пацікаўся, — параіла мама.

Сеў Алесь за стол, вырваў са сшытка аркуш паперы і вялікімі літарамі вывеў: „Дарагі брат Мікола! Калі прыедзеш на пабыўку? Напішы. Вельмі чакаю цябе“.

Мінуў тыдзень, другі. І вось Алеся спыніў паштальён:

— Трымай, табе, Ляшэвічу Алесю, пісьмо.

Дома Алесь дастаў лісток з канверта і пачаў чытаць: „Дарагі Алесік! Ці хутка, пытаешся, на пабыўку прыеду? Гэта і ад цябе залежыць. Трэба, каб наша мама часцей усміхалася. Яе ўсмешка мне служыць паможа. Так служыць, каб камандзіры хвалілі. Пастарайся, Алесь, каб мама часцей усміхалася. Тады і на пабыўку я хутчэй прыеду...“

Прачытаў Алесь пісьмо, задумаўся: праўда, рэдка мама ўсміхаецца. Прыйдзе вечарам, скардзіцца: „Стамілася вельмі“. Потым у яго, Алесеў, дзённік гляне, спахмурнее: „Зноў па матэматыцы тройку прынёс! Будзем разам задачу рашаць“.

Так, рэдка ўсміхаецца мама. І як толькі даведаўся аб гэтым Мікола? А раней яна штодзень усміхалася. Пакуль з работы вернецца, Мікола і ў печцы прапаліць, і бульбы наабірае, і ў хаце прыбярэ. А цяпер усё адна робіць. Цяжка ёй!

Апрануўся Алесь, прынёс з дрывотні дроў. Паклаў у печку, падпаліў смаляк — заскакаў агеньчык, весела затрашчалі дровы. Зачыніў Алесь дзверцы ў печцы, каб галавешка на падлогу не вывалілася, за стол сеў і пачаў задачу рашаць.

Вярнулася з работы мама. Цёпла, утульна ў хаце. Падбег да яе Алесь, пахваліўся:

— Мама, я ў печцы прапаліў. І задачу рашыў.

— Няўжо сам? — не паверыла мама.

— Сам. А ты не стамілася сёння?

Пазірае на маму: няўжо не ўсміхнецца?

Усміхнулася мама:

— Не стамілася, сынок...

Скончылася зіма. Аднаго разу ўскапаў Алесь з мамай градку каля хаты, вяргіні пасадзілі. На лаўку прыселі, каб адпачыць. Глянуў Алесь на вуліцу — вачам сваім не паверыў. Скіроўвае да іх дома хлапец. Высокі, прыгожы.

— Мікола!

Алесь маму апярэдзіў, прыціснуўся да брата, сказаў:

— Я ведаў, што ты хутка прыедзеш на пабыўку. Цяпер мама кожны дзень усміхаецца.

Алесь Пальчэўскі

## МОДНАЯ ХВАРОБА

У нядзелю вечарам тата паехаў у камандзіроўку, а назаўтра Данік захварэў.

Маці занепакоілася, пачала дапытвацца ў сына, што баліць, і ён паўтарыў тое, што гаварыў аднаго разу хворы тата доктару:

— У суставах ломіць і на сон хіліць.

— Прастудзіўся ўчора, вецер на двары, а ты ўвесь дзень паза домам. Зараз я табе яечню спяку і чаю з варэннем дам. Паснедаеш, і ўсё пройдзе, — памкнулася маці на кухню.

— Я нічога не хачу, — прыглушаным голасам адказаў Данік.

— Не хочаш чаю з малінавым варэннем? Ты ж яго любіш, — палажыла руку на Данікаў лоб маці.

Данік сапраўды любіў малінавае варэнне і аблізаў губы, быццам паласаваўся ўжо ім.

— Лоб твой, сынок, не гарачы, — зняла руку маці.

— Дык жа мне баліць не галава, а суставы, вось тут, — паказаў хлопчык запэцканыя ў чарніла пальцы.

Гэта ўжо зусім устрывожыла маці. „Калі ад свайго любімага варэння адмаўляецца, значыць, нешта нядобрае з ім“, — падумала яна і яшчэ больш настойліва пачала ўгаворваць сына:

— Не будзеш есці, зусім захварэеш і адстанеш з вучэннем. Ты ж абяцаў тату слухацца маму і добра вучыцца. А тата казаў, прывязе табе нештачка.

Данік чуе матчыны словы пра падарунак, пазірае ў столь і думае: „Цікава, што прывязе тата?“ А маці стаіць каля ложка і чакае адказу.

— Чуў, сынок, што я гаварыла?

— Чуў. Пакуль тата вернецца, папраўлюся.

Маці падтыкае з бакоў коўдру, каб цяплей было сыну, і гаворыць сваё:

— Паправіцца — паправішся, а з урокамі адстанеш.

— Не адстану. Я доўга не буду хварэць, — запэўнівае Данік.

Хлопчык зусім не настроены расхворвацца. Ён ведае, — нікому не прыносіць радасці хвароба. Але сёння ён гатовы праляжаць увесь дзень, каб толькі не ісці ў школу.

З кухні падаў сігнал чайнік, і маці пайшла гатаваць снеданне Даніку. Неўзабаве яна прынесла табурэцік, паставіла каля ложка, а на яго — чай з варэннем і лустачкі булкі з маслам.

— Чай толькі вып'ю, а булкі не трэба, — пакруціў галавою Данік.

— Усё еш, каб не аслабеў, а я схаджу да цёткі Глашы, паклічу па тэлефоне доктара.

Данік хацеў быў сказаць, што не трэба турбаваць доктара, бо ён і так паправіцца, але не пас-

(Працяг на стар. 10)



Алінка Міхалевіч з Чыжоў — удзельніца дэкламатарскага конкурсу. Фота Я. Чэрнякевіч.

# ЗАГАДКІ

Алена Рупкая

## ЗАГАДКІ-ВЕРШАНЯТКІ

Хто без фарбы, без алоўка
Так на шкле малюе лоўка?
Хто на дрэвы, усім на здзіў,
Футры белыя пашыў?
Хто шчыпае нас за нос?
Кожны знае — ...

Дзед Мароз

*

Два вясёлых палазкі,
Услед сляды, як раўчукі,
І з гары ўсё ніжай, ніжай,
Хто імчыць нас?
Гэта ...

лыжы

* * *

Спяшаюцца рабяты,
Бо звоняць раўчукі;
Яны будуюць хаткі,
Дзе будуць жыць ...

шпакі

* * *

На кусціках, на нітачках
зялёных
Радочкі яркіх пацерак
чырвоных.
Іх знойдзеш ты на беразе,
ля рэчкі.
Завуцца тыя пацеркі ...

парэчкі

# ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 43, кв. 61. Наташа Платонава. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 2, кв. 51. Саша Валькові. 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 28. Павел Філіповіч. 3 клас.

* * *

СССР, 279200, Молдавская ССР, г. Бельцы, ул. К. Маркса, 7. кв. 29. Бойко Яня.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 107. Коспя Лук'янаў. 3 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 107. Саша Лук'янаў. 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 55, кв. 11. Алёша Аляксееў. 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 19, кв. 30. Наташа Кравец. 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 2, кв. 44. Андрэй Сітнікаў. 2 клас.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, пер. Самоходный, 18. Гребневой Инне. (15 год).

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Семафорная, 14. Кравченко Евгений. (5 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 80, кв. 46. Максім Юнакоў. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 11, кв. 17. Дзяніс Чаглак. 3 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша, 3а, кв. 8. Макеевой Инне. (11 год).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 76, кв. 10. Андрэй Скаржынскі. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 2, кв. 44. Аляксей Сітнікаў. 3 клас.

# МОДНАЯ ХВАРОБА

(Працяг са стар. 9)

...пеў: маці борздзенька выйшла за дзверы.

Доктар не забавіўся з прыездам.

— Што здарылася? — распранаючыся, пытаў ён у гаспадыні.

— Данік наш нешта занядужаў.

— Якая тэмпература? Мералі?

— Не, у нас і градусніка няма.

Вешаючы паліто на кручок, доктар ласкава папракнуў гаспадыню:

— Такую рэч трэба мець у хаце. Асабліва, калі ёсць дзеці. Паказвайце, дзе ваш хворы.

Маці адчыніла дзверы ў пакой, дзе ляжаў Данік, і запрасіла доктара.

— Ну, малады чалавек, на што скардзімся? Што баліць? — узяў Данікаву руку доктар і, не чакаючы адказу, пачаў лічыць пульс. — А цяпер пакажы язык. Сядзь, я паслухаю. Скажы: „А-а-а".

Данік добра ведаў свайго раённага доктара, ведаў, што гэта добры, вясёлы, але строгі чалавек.

— Та-ак, пульс нармальны, голас чысты. Праверым яшчэ тэмпературу, — паставіў доктар градуснік хвораму. — Ляжы спакойна, глядзі мне ў вочы і расказвай, што баліць.

І доктар пачуў тое, што хлопчык казаў маме: санлівасць і ламота ў суставах.

— Вочы не паказваюць, каб табе хацелася спаць. Уночы як спаў, добра?

Данік міргнуў вачамі.

— Тэмпература ў вас, малады чалавек, нармальная: трыццаць шэсць і сем. Асталося лячыць суставы, — паклаў доктар градуснік у футлярчык.

— Зноў горкія кроплі піць? Як той раз, калі балеў жывот? — пацікавіўся Данік.

— Не. Тады іншая хвароба была.

— А што, таблеткі?

— І таблетак не будзе. Паспрабуем лячыць спосабам нашага славутага медыка Здароўкіна. Першы прыём ён раіць рабіць хвораму ў пасцелі. Сядзь, выцягні перад сабою рукі, варушы пальцамі і гавары за мною: „Я здаровы — раз, я здаровы — два, я здаровы — тры..." Цяпер сам паўтары гэта два разы.

Хлапчук ахвотна выканаў доктараву параду. Гэта ж не горкія кроплі піць!

— Ну як, ломіць яшчэ ў суставах? — пацікавіўся доктар, як толькі хворы налічыў тры разы па тры.

Данік паварушыў пальцамі і з радасцю адказаў доктару:

— Менш баліць.

— Ну вось і добра, — палагаднеў доктар. — Пігрыцыя, выходзіць у цябе. Зробіш так яшчэ ў абед, затым перад сном і заўтра пойдзеш у школу падскокваючы.

— Доктар, вы назвалі нейкую модную хваробу. Не заразная часам?

— Не. Яна вельмі рэдка да каго прыстае.

Данік павесялеў, а разам з ім і маці.

Цётка Марфа падзякавала доктару. Для пэўнасці спытала, ці можна пакінуць хворага на догляд старэйшаму сыну, каб самой пайсці на работу ў другую змену.

— Пойдзеш, мама, пойдзеш, — раней за доктара адказаў хлапчук. — Саня пабудзе са мною.

Назаўтра хлопчык пахваліўся ў класе, як доктар вылечыў яго без парашкоў і таблетак. А калі настаўнік спытаў, чаму Данік не быў учора на занятках, сябры першыя расказалі пра яго модную хваробу.

— А ведаеце вы, што такое пігрыцыя? — пацікавіўся настаўнік у вучняў.

Тыя моўчкі пераглянуліся: адкуль ім ведаць. Нават сам хворы не знаў, што за хвароба такая. Прыйшлося настаўніку растлумачыць:

— Пігрыцыяй называюць палатыні лянoту.

Вучні былі надта здзіўлены, а сканфужаныя сябры папракнулі Даніка:

— Знайшоў модную хваробу.

Дома Данік не сказаў, што за хвароба была ў яго. Ведаў, такое не вельмі парадуе бацькоў. Ён і сам потым не раз каяўся, што не вывучыў тады зададзеных урокаў і надумаў захварэць. Бо як толькі звернешся да каго з сяброў за дапамогай, тыя, хоць і пакажуць і раскажуць, але не прамінуць пацвяліцца:

— А што, зноў хварэў на пігрыцыю, што сам не разабраўся?

У такіх выпадках Данік лічыў за лепшае прамаўчаць.

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Правядзі стралу праз лабірынт так, каб трапіла ў яблык.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка".

